Народная Воля · 24 САКАВІКА 2004 г.

ПУЛЬС

## «Райфайзен» лепшы

Група "Райфайзен Цэнтраль-банк Остэррайх АГ" і 15 банкаў — членаў групы, у тым ліку беларускі "Прыорбанк", сталі пераможцамі ў намінацыі "Найлепшы банк у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе" паводле версіі аўтарытэтнага часопіса "Глоўбал Файнэнс".

Нагадаем, што акцыянерам "Прыорбанка" найбуйнейшы аўстрыйскі банк "Райфайзен-банк" стаў у 2003 годзе. Прамыя інвестыцыі ў статутны фонд ААТ "Прыорбанк" склалі 30 млн. еўра. Цяпер доля "Райфайзен-банка" ў статутным фондзе банка — 61,3 працэнта.

Пры садзейнічанні "Райфайзенбанка" летась "Прыорбанкам" быў рэалізаваны першы ў Беларусі праект з Міжнароднай фінансавай карпарацыяй на суму 14 млн. долараў ЗША. Апроч таго, у верасні 2003 года "Прыорбанк" атрымаў сіндыкаваны крэдыт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця (акцыянер "Прыорбанка" з 1997 года) на суму 36 млн. долараў ЗША для фінансавання інвестыцыйных праграм прамысловых прадпрыемстваў краіны.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Піва выцясняе гарэлку?

На 15 працэнтаў скараціўся аб'ём рэалізацыі гарэлкі ў гандлёвай сетцы Беларусі ў студзені-лютым 2004 года ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам. Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, у абсалютных лічбах рэалізацыя зменшылася з 1 млн. 269 тыс. да 1 млн. 78,5 тыс. дэкалітаў.

Яшчэ больш прыкметна — на 26,8 працэнта — знізіўся продаж вінных пладовых напояў. Адначасова на 0,5 працэнта павялічылася рэалізацыя пладовых він, на 3,3 — каньяку, на 5,3 — вінных вінаградных напояў, на 5,8 — піва, на 17 — лікёра-гарэлачных вырабаў, на 32,2 — вінаградных він, на 32,6 — шампанскага.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## «Крык душы» з Ірландыі

З дабрачыннай місіяй у Мазыры знаходзяцца члены грамадскага аб'яднання "Крык душы" з Ірландыі. Гэта арганізацыя супрацоўнічае з Мазыром ужо больш за 15 гадоў, рэгулярна аказваючы гуманітарную дапамогу і займаючыся аздараўленнем дзяцей.

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік дэлегацыі Майкл Дэнт, мэта цяперашняга візіту — вызначыць памеры неабходнай матэрыяльнай дапамогі мазырскім бальніцам і школам, а таксама сфарміраваць і падрыхтаваць групы дзяцей для аздараўлення ў Ірландыі гэтым летам.

**Лідзія РУДКОЎСКАЯ.**

## Адкрыліся дні Швецыі

У Мінску адкрыліся Дні Швецыі. Яны праводзяцца на базе факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Мэта мерапрыемства, якое арганізавала БДУ сумесна з мінскім офісам пасольства Швецыі ў Маскве і ганаровым консульствам Швецыі, — пашырыць супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі ў галіне адукацыі і культуры.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## У Лідзе затрыманы вандал

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе аб'яднання "Ахова" пры МУС, 21-гадовы раней судзімы малады чалавек разбураў надмагільныя пліты сярод белага дня. Калі пасля выкліку вартаўніка на могілкі прыбылі супрацоўнікі "Аховы", вандал аказаў ім актыўнае супраціўленне. У выніку супрацоўнікі праваахоўных органаў ужылі спецсродкі, і неўзабаве затрыманы апынуўся за кратамі.

Супраць яго распачата крымінальная справа па артыкуле 347 Крымінальнага кодэкса, што прадугледжвае адказнасць за апаганьванне трупа ці магілы. Паводле слоў міліцыянераў, урон, нанесены вандалам, будзе ацэньвацца разам з роднымі тых, на чыіх магілах аказаліся пашкоджанымі помнікі.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

ПАЗІЦЫЯ

# Стратэгія перамогі

Апошнім часам у друку актыўна абмяркоўваецца стратэгія і тактыка выбарчай кампаніі 2004 года. Праявіліся тры падыходы. Народная кааліцыя "Пяцёрка плюс" прапануе змагацца ў кожнай акрузе за адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл. Другія грамадска-палітычныя сілы бачаць больш шанцаў, калі будзе 5—7 кандыдатаў. А Зянон Пазьняк наогул выступае за байкот парламенцкіх выбараў.

У мяне іншы погляд на гэтую выбарчую кампанію.

### Галоўны сегмент — трэці

Ключавая праблема — адэкватна ацаніць сітуацыю ў краіне. Сёння, згодна з сацыялагічнымі апытаннямі, беларускае грамадства па палітычнай арыентацыі дзеліцца на тры сегменты: 25% электарату падтрымлівае ўладу; 25% — паслядоўныя прыхільнікі апазіцыі; астатнія 50% характарызуюць расчараванне ўладай і недавер апазіцыі. Менавіта ад волі людзей, якія ўваходзяць у трэці сегмент, залежаць вынікі любых выбараў. Тут трэба шукаць стратэгію перамогі.

### Новая грамадская сіла

Незадаволенасць уладай нарастае. На кухні, у магазінах, на вуліцы, у транспарце людзі ўсё часцей і часцей абураюцца дзеючым рэжымам. Разам з тым назіраецца такі парадокс. Расчараванне ўладай не павялічыла прыхільнікаў апазіцыі.

Як гэта растлумачыць? Адказваю: з моманту ўтварэння першых апазіцыйных арганізацый і па сённяшні дзень слугі ўлады паліваюць іх брудам, скажаюць іх праграмы, фарміруюць імідж ворагаў народа. Інфармацыйная блакада не дазваляе абвергнуць гэты паклёп. Гульня, як кажуць, ідзе ў адны вароты.

У свядомасці электарату сегмента №3 замацаваўся стойкі стэрэатып, што апазіцыя — сіла небяспечная, што ёй нельга даверыць уладу. Такая палітычная рэальнасць.

Яна і дыктуе нам формы дзейнасці. У асяроддзі сегмента №3 неабходна ўтварыць новую грамадскую сілу. Такой сілай можа стаць народны рух "За перамены!".

### Патрэбна альтэрнатыва

Мы добра ведаем людзей сегмента №3, іх асаблівасці. Большасць іх не разумеюць, для чаго патрэбны грамадскія арганізацыі, палітычныя партыі і нават парламент. У савецкія часы дэпутат парламента выконваў функцыі выбівалы розных матэрыяльных фондаў для свайго раёна, і гэта падвышала яго статус.

Цяпер жа, калі Лукашэнка зрабіў дэпутатаў кішэннымі і безгалосымі, цікавасць выбаршчыкаў да іх прапала. Выбары для многіх людзей ператварыліся ў дробную павіннасць. Пайшоў у краму, купіў бохан хлеба, па дарозе зазірнуў на выбарчы ўчастак і прагаласаваў. За каго? Якая розніца!

Гэтыя людзі звыкліся з думкай, што ўсе праблемы народа вырашае кіраўнік дзяржавы. Іх мары і пажаданні зводзяцца да аднаго: нам бы добрага цара! У 1994 годзе ім падалося, што такім царом будзе Аляксандр Лукашэнка. Яго абралі прэзідэнтам і нават далі царскія паўнамоцтвы.

З цягам часу адносіны да цара сталі мяняцца. У многіх ужо наступіла глыбокае расчараванне: цар не зрабіў народ шчаслівым.

І ўсё ж вера ў добрага цара не знікла. Размовы пра тое, што трэба гуртавацца і разам змагацца за перамены, за лепшую долю гэтых людзей не грэюць. Іх цікавіць толькі адно: хто заменіць Лукашэнку? У канцы кожнай гаворкі гучыць пытанне: "У вас ёсць альтэрнатыва прэзідэнту?"

Гэтым людзям трэба паказаць чалавека, які цвёрда і ўпэўнена заявіць ім: я бяру на сябе адказнасць за ваш лёс, за ваш дабрабыт, за перамены да лепшага.

### Наша альтэрнатыва

Сітуацыя прымушае ісці на парламенцкія выбары, вызначыўшы прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта. За перыяд палітычнай дзейнасці мне давялося пазнаёміцца і пасябраваць з многімі выбітнымі дзеячамі нашай Бацькаўшчыны. Магу назваць дзесяткі імён, якія па сваім інтэлекце і прафесійнай падрыхтоўцы здольны займаць пасаду прэзідэнта.

У нашых умовах перамагчы зможа толькі той прэтэндэнт, які валодае пэўнымі здольнасцямі і мае некалькі характэрных асаблівасцяў. Менавіта гэтыя асаблівасці робяць яго асобу прывабнай для большасці народа. Назаву іх.

Першая. Яго імя не будуць звязваць ні з цяперашняй уладай, ні з радыкальнай апазіцыяй. Электарат сегмента №3 будзе лічыць яго сваім чалавекам.

Другая. Яго ведае і яму давярае значная частка цяперашняй наменклатуры. Яна яго не баіцца і пры пэўных умовах можа актыўна яго падтрымаць.

Трэцяя. Яго імя не напалохае і апазіцыю. Большасць апазіцыі ведае дакладна, што курс Лукашэнкі ён працягваць не будзе.

Сярод многіх такога прэтэндэнта шукаць і перабіраць не давядзецца. Так склалася, што гэтымі асаблівасцямі, на мой погляд, валодае адзін чалавек. **Завуць яго Аляксандр Ільіч ЯРАШУК.**

### Стратэгія перамогі

Сутнасць стратэгіі перамогі заключаецца не ў тым, каб прайсці ў парламент. Па-першае, гэты парламент нічога не вырашае. Па-другое, кожны з нас ведае, у якой краіне жывем і як праходзяць "выбары". Адміністратыўны рэсурс улад такі, што яны здольны "заваліць" любога яшчэ на этапе рэгістрацыі. Прывяду адзін прыклад.

Падчас парламенцкай кампаніі 1999 года ў Гродне рэгістраваўся кандыдатам прадстаўнік Беларускай патрыятычнай партыі. Яму камісія адмовіла ў рэгістрацыі з той прычыны, што ён у дэкларацыі не адзначыў, што мае аўтамабіль. На самай справе аўтамабіля ў яго не было. Але старшыня камісіі паказаў даведку і прапанаваў яму ісці разбірацца ў міліцыю.

Пасля доўгага высвятлення гэтага пытання ў міліцыі яму нарэшце сказалі: "Прабачце. Выйшла памылка". Калі ж ён, задыхаўшыся, прыбег у камісію, то там рэгістрацыя ўжо скончылася. Цягнік пайшоў.

Трэба адзначыць, што так "пракінулі" прадстаўніка партыі, якая, вобразна кажучы, пастаянна драла горла за Лукашэнку. Гэты чалавек яшчэ доўга пісаў скаргі ў розныя інстанцыі і спадзяваўся, што прэзідэнт пакарае вінаватых. Не дачакаўся.

З гэтай гісторыі можна зрабіць важкую выснову. Улада не дзеліць кандыдатаў на апазіцыйных, незалежных, памяркоўных і г.д. У яе адзін падыход: **свой і чужыя.** А чужых трэба "мачыць".

Стратэгічныя задачы неабходна фармуляваць на рэальнай глебе. Усе намаганні трэба накіраваць на падрыхтоўку прэзідэнцкіх выбараў.

Ёсць неабходнасць утварыць аргкамітэт для разгортвання народнага руху "За перамены!" і сфарміраваць групы падтрымкі аргкамітэта па ўсёй Беларусі.

Пасля, у прыдатны момант, аргкамітэт запросіць сваіх прадстаўнікоў з рэгіёнаў на ўсенароднае веча, дзе і будзе аб'яўлена аб утварэнні народнага руху "За перамены!" і яго мэтах. Відавочна, што лідэр народнага руху стане прэтэндэнтам №1 на вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты.

Парламенцкая кампанія дае шырокія магчымасці для згуртавання беларускага грамадства вакол такой альтэрнатывы. Падчас парламенцкіх выбараў будуць вырашацца асноўныя задачы:

разгортванне народнага руху "За перамены!";

раскрутка прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта і яго праграмы;

фарміраванне каманды будучага кандыдата ў прэзідэнты.

Уся гэтая дзейнасць падрыхтуе глебу, на якой вырасце ўраджай перамогі 2006 года.

### Не дапусцім «нямых» у парламент

Вызначыўшы стратэгію перамогі, усе мы можам па-іншаму паглядзець на парламенцкую кампанію. Зрабіць пэўныя карэктывы і нават пайсці на нейкія эксперыменты.

На мой погляд, у кожнай выбарчай акрузе трэба вылучыць 1—2 кандыдатаў — ад народнай кааліцыі "Пяцёрка плюс" і 1—2 — ад іншых грамадскіх сіл. Усе яны маюць шанц на перамогу ў тым выпадку, калі агульнымі намаганнямі выб'юць кандыдата ад улады. Логіка выбарчай кампаніі дыктуе тактыку дзеяння: кожны кандыдат агітуе і за сябе, і супраць стаўленіка ўлады. Адначасова дэмакратычныя кандыдаты аб'яўляюць мараторый на спрэчкі паміж сабою.

Дэпутаты, якіх падбірае і падтрымлівае ўлада, маюць адну асаблівасць: яны безгалосыя. У тым сэнсе, што перад грозным поглядам Лукашэнкі яны нямеюць.

Адсюль напрошваюцца лозунгі выбарчай кампаніі: "Не дапусцім "нямых" у парламент!", "Кішэнным не месца ў парламенце!", "Далоў безгалосых!".

Падчас выбарчай кампаніі ў парламент прапануецца такі эксперымент. Трэба ва ўсіх выбарчых акругах падабраць па адным кандыдаце, які будзе праводзіць сустрэчы з выбаршчыкамі інакш, чым другія, па-свойму. Дапусцім, ён скажа так:

"Шаноўныя выбаршчыкі! Беларускі парламент фактычна бяспраўны. Самыя годныя людзі ў парламенце нічога зрабіць не могуць. Новы парламент не прынясе перамен у наша жыццё. Сапраўдныя перамены прыйдуць пасля абрання новага прэзідэнта. Я ведаю прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта, працую ў яго камандзе і раскажу вам пра яго палітычныя і эканамічныя погляды".

Найбольшага эфекту ад эксперыменту можна чакаць, калі дэмакратычныя сілы дамовяцца вылучыць адзінага прэтэндэнта да пачатку парламенцкай кампаніі. У гэтым выпадку інфармацыя пра альтэрнатыўнага кандыдата будзе распаўсюджана па ўсёй Беларусі. Разам з тым падвышаюцца шанцы кандыдатаў у парламент, якія ўдзельнічаюць у эксперыменце. Цікаўнасць да іх можа перарасці ў падтрымку.

Вядома ж, прапановы, якія я выклаў у гэтым артыкуле, некаму пакажуцца дыскусійнымі. Што ж, давайце павядзем гаворку шырока, адкрыта. Для тых, хто хоча ўдзельнічаць у дыскусіі ці выказаць нейкія прапановы, даю каардынаты:

**220068 г.Мінск, вул.Гая, 38, кв. 1. Тэл. хатні 234-38-35**

**Яўген ЛУГІН.**

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# Деньги уплачены, а благоустройство где?

Уважаемый Иосиф Середич! Наступил момент, когда я, молодой председатель ЖСК, вынужден обратиться в Вашу газету и просить о помощи. Возможно (и я на это еще надеюсь), если мое обращение попадет на страницы газеты, то власти местных и городских органов управления и лично председатель Минского горисполкома обратят внимание на дом № 35 по проспекту имени газеты "Известия" (г.Минск, микрорайон "Юго-Запад-II"). Ведь в любой цивилизованной стране главной ценностью является прежде всего человек, и служить этому человеку и народу обязаны все чиновники и государство в целом.

Так вот, в доме, который я назвал, проживает более тысячи человек, среди них немало стариков, инвалидов, детей, для которых благоустройство и санитарное состояние подъездов, детских площадок, подвальных и машинных отделений — вовсе не пустяк, не стоящий внимания.

24 февраля по долгу своей службы я прошел по подъездам этого большого дома, насчитывающего 385 квартир, и ужаснулся... В большинстве подъездов ремонт не делался ни разу (а дому — уже четверть века!). Представляете, что там творится! Равнодушие местных органов управления и их руководителей к мольбам жильцов о помощи привели к тому, что жить здесь — значит ежедневно подвергаться стрессам. На протяжении 24 лет жильцы исправно отчисляли деньги на капремонт и текущие ремонты. А сейчас должны, как нищие и бездомные, просить подаяния у государства. Просить, чтобы за их же кровные благоустроили подъезды, оборудовали площадки, починили трубы и канализацию, привели в порядок подходы к подъездам дома, установили в подвалах счетчики учета воды и тепла.

На все вопросы местные органы и им подвластные государственные предприятия по обслуживанию населения (например, УП "ЖРЭО Московского района белорусской столицы) через своих руководителей предлагают жильцам решать накопившиеся проблемы... своими силами и за свой счет.

Возникает резонный вопрос: а где же деньги, которые жильцы дома отчисляли четверть века? Неужели они пошли лишь на то, чтобы содержать аппарат ЖРЭО и им подвластного ЖЭС-73?. Кто объяснит нам, что происходит с нашим государством, где человека превращают в мусор, через который можно бездумно переступить?

Мало того, что по жировкам у нас платят за несуществующий капремонт и техобслуживание, так еще, выходит, должны откладывать из своих тощих кошельков крохи, которые остались после все дорожающих коммунальных услуг, а уже эти, наличные деньги передавать ЖЭСу для того, чтобы жильцам сделали "одолжение" и все-таки отремонтировали подъезды? Эти предложения уже поступали нам от мастера ЖЭС-73. Люди возмущены беспределом работников этой организации, в обязанности которой входит за уже перечисленные деньги выполнять техническое обслуживание и другие работы по дому: все это — согласно договору между кооперативом и УП "ЖРЭО Московского района". Это же безобразие, что мы постоянно вынуждены просить то, за что давно уплатили государству. Так пусть вернут хотя бы часть средств на благоустройство нашего дома! Услышат ли наконец наш голос?

**С уважением —**

**председатель ЖСК-401 Сергей ГАРКУША и жильцы дома № 35 по проспекту газеты "Известия".**

**От редакции.** *Считаем, что авторы письма поднимают очень серьезную проблему, затрагивающую многих горожан. Это действительно безобразие, когда не только жильцы дома № 35 по проспекту имени газеты "Известия", но и множества иных домов в разных районах столицы не могут добиться от "родных" ЖЭСов ответа на простенький вопрос: куда уходят деньги, десятки лет отчисляемые на ремонтные дела, если зачастую никаких ремонтов и близко нет? Было бы очень желательно услышать разъяснения по сему поводу из Мингорисполкома.*

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

# Алексей Павловский будет идти до конца...

Прошло больше года с того времени, как в могилевском стройтресте № 12 был уволен с работы председатель первичной организации Свободных профсоюзов Беларуси каменщик Алексей Павловский. Активист заявил, что причиной его увольнения стала активная профсоюзная деятельность, и с декабря 2002 года начал борьбу за восстановление на работе. Его уволили после того, как он воспользовался правом многодетного отца (у него пятеро несовершеннолетних детей) и в соответствии с коллективным договором ушел с работы, чтобы присмотреть за своими детьми.

Весной 2003 года в Центральном районе Могилева начался суд по иску опального рабочего к администрации треста. После нескольких судебных заседаний стороны пришли к мировому соглашению: администрация выплачивает работнику 950 тысяч рублей за время вынужденного прогула с декабря 2002 года, увольняет его по собственному желанию, а каменщик Павловский отказывается от требования о восстановлении на работе. Однако рабочий внимательно прочитал трудовое законодательство и пришел к мнению, что наниматель за 23 года работы в тресте не смог полностью обеспечить его трудовые права. После апреля 2003 года он выиграл еще пять судов. По решению суда в мае 2003 года за особые условия труда (он работал каменщиком на высоте) ему с учетом индексации выплатили более 300 тысяч рублей, в сентябре 2003 года за просрочку расчета — около 800 тысяч рублей.

В июле 2003 года он выиграл еще два суда. На одном из них следует остановиться отдельно. А.Павловский посчитал, что генеральный директор треста Иван Якушев (теперь заместитель председателя горисполкома) в ответе на его письмо допустил ряд оскорбительных выражений. В частности, наниматель написал: "вашей наглости нет предела", "вы загнали себя в тупик от "большого ума" и "богатой фантазии", "коллектив, в котором вы работали, здоров, а вот у вас, похоже, начинается то, что вы добивались". Итак, ссылаясь на трудовое законодательство, Алексей Павловский через суд смог получить около 2 миллионов 300 тысяч рублей, что в то время было эквивалентно сумме, большей 1000 долларов.

Сейчас бывший строитель намерен поставить вопрос о возврате профсоюзных взносов, которые, как он сказал, незаконно удерживали у него на протяжении двадцати лет.

— А что? — делится он своими переживаниями. — За все время работы я не ощущал поддержки отраслевых профсоюзов и не видел, чтобы они действительно защищали права наемного работника.

Кроме того, с приходом нового директора могилевского стройтреста № 12 он надеется поступить на ту же работу, о чем в феврале он уже написал соответствующее заявление, и возродить деятельность первичной организации СПБ на предприятии. Между прочим, в счет брони на прежнее рабочее место его отправила городская служба занятости.

— Я считаю, что рабочим стройтреста не стало лучше, когда меня уволили. Ведь в соответствии с моими заявлениями наш трест проверяли двадцать три раза и по многим вопросам обнаружены нарушения трудового законодательства, — в конце разговора подвел итог своей профсоюзной деятельности рабочий с двадцатитрехлетним стажем.

**Александр СЕРДЮКОВ.**

*Вынік аўтамабільнай аварыі ў Маладзечне.*

Фота ByMedia.net

ЗАПРАШАЕМ!

## «Залаты апостраф» — «Оскар» сучаснай беларускай літаратуры

*Літаратурна-мастацкі часопіс "Дзеяслоў" святкуе свой першы дзень нараджэння і ўпершыню ўручае літаратурную прэмію "Залаты апостраф".*

За год пабачыла свет восем нумароў гэтага выдання. На старонках "Дзеяслова" друкуюцца як прызнаныя класікі айчыннай літаратуры, так і маладыя аўтары, чые імёны адкрыў менавіта гэты часопіс.

З нагоды дня народзінаў самабытнага часопіса **25 сакавіка ў Доме літаратара (вул. Фрунзе,5)** адбудзецца літаратурная вечарына. Удзел у ёй возьмуць літаратары **Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Леанід Дранько-Майсюк, Вольга Іпатава** і іншыя. Акрамя мілагучнага беларускага слова на вечарыне будуць гучаць песні ў выкананні вядомых беларускіх бардаў.

Але гэта яшчэ не ўсё. Апафіёзам імпрэзы стане ўручэнне літаратурнай прэміі **"Залаты апостраф"**, якую заснавала рэдакцыя "Дзеяслова". Як жартуюць члены рэдакцыі, "Залаты апостраф" — гэта літаратурны "Оскар" сучаснай беларускай літаратуры. Прэмія будзе ўручацца ў трох намінацыях: "Проза", "Паэзія" і "Літаратурны дэбют".

Журналіст "Народнай волі" пацікавіўся ў намесніка галоўнага рэдактара "Дзеяслова" **Эдуарда Акуліна**, чаму менавіта такую назву мае гэтая прэмія.

*"Апостраф — гэта выключна беларускі літаратурны элемент, гэтым мы падкрэсліваем прыналежнасць прэміі да беларускай літаратуры, — гаворыць Эдуард. — А залаты ён таму, што апостраф можна ўявіць у выглядзе маладзіка, які асвятляе творчую дарогу аўтарам "Дзеяслова". Дарэчы, калі ўзяць любы тлумачальны слоўнік беларускай мовы, то апостраф там вызначаецца як надрадковы знак у выглядзе коскі. А коска — гэта ў любым выпадку працяг. Так што "Дзеяслоў" не збіраецца спыняцца на дасягнутым. Нашых чытачоў наперадзе чакае шмат цікавага. Між іншым, рэдакцыя часопіса спадзяецца, што прэмія "Залаты апостраф" стане традыцыйнай".*

Дарэчы, на вечарыне можна будзе набыць апошні, восьмы нумар "Дзеяслова". А пачытаць тут і сапраўды ёсць што. Шмат чаго каштуюць **"Парадоксы жыцця" Васіля Быкава.** Гэта архіўныя запісы розных гадоў славутага пісьменніка, якія аздоблены малюнкамі, зробленымі самім Васілём Уладзіміравічам. Акрамя гэтага ў новым нумары часопіса чытачы знойдуць падборку вершаў **Ніла Сымонавіча Гілевіча**, якая называецца **"А святло ўсё ідзе"**, апавяданне **Леаніда Дранько-Майсюка "Пенсіянер"**, навэлы **Уладзіміра Сцяпана** і яшчэ шмат чаго цікавага.

На вечарыну запрашаюцца сапраўдныя і патэнцыяльныя аўтары і чытачы "Дзеяслова". Карацей кажучы, усе, хто прагне сапраўднага беларускага слова. **Пачатак імпрэзы — 18.30. Уваход вольны.**

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

СВЕЖАЯ ТЕМА

# Студенты помешались на Америке

В вагоне метро, на фонарном столбе, по телевидению — везде реклама сулит сверхприбыль. Не у нас, а в Америке. За пару летних месяцев студент может заработать в США от двух до четырех тысяч долларов. Столько его родители не получат и за полгода. Для молодого человека это фантастика. Платник сам заплатит за учебу, бюджетник одарит папу бритвой, а маму — кастрюлей.

В общем, желающих летом поработать очень много, поэтому агентства, предлагающие посреднические услуги, растут как на дрожжах.

Попасть "за бугор" можно по-разному. Один участвует в розыгрышах на получение временного гражданства, другой — в международных программах студенческих обменов. Это те, кто поумней. Основная масса молодых людей едет за границу в рамках программы **"Work and Travel".**

Именно эта программа дает шанс заработать деньги. Если останется время, можно также поискать новых друзей, расширить свой кругозор, на практике закрепить владение иностранным языком.

Тем более что требования, предъявляемые к претендентам, минимальны. Знаешь английский или не знаешь, умеешь работать или не умеешь — американцы примут. Правда, в посольстве могут не выдать визу, но такие случаи редки. Главное, надо быть студентом дневного отделения в возрасте от 18 до 25 лет. И, конечно, иметь хороших родителей: поездка в США обойдется в среднем в полторы тысячи долларов.

В рамках программы **"Work and Travel"** участник может легально работать на протяжении четырех месяцев. После этого ему дается еще один месяц для того, чтобы покинуть страну. Этот месяц можно потратить на путешествия или отдых.

Белорусские студенты, приезжающие на заработки в США, работают в сфере обслуживания. В парках развлечений, отелях, ресторанах, магазинах, на пляжах и на улицах. Американцам в летний период нужно много горничных, продавцов, официантов, дворников и грузчиков. Сами они ищут работу подоходнее.

В Беларуси существует ряд агентств, которые берут на себя ответственность за оформление всех документов и помощь студентам в поездке. Центр международных обменов, Центр студенческих обменов при БГЭУ, Центр культурных обменов "Star Travel" — самые популярные в нашей стране. Каждый центр предлагает свои условия программы, цены и услуги.

Студентка Таня, которая привезла домой четыре тысячи у.е., доллары полюбила страстно. В Минске, где она учится на учителя, таких денег ей не видать. Лет сто. Разница между зарплатами нашими и их настолько огромна, что может погубить молодого человека. Заграницей заболевают. Вот и Таня заболела: уже не хочет учить белорусских детей. Мечтает лишь об одном: поехать в Штаты на следующий год — и не возвращаться.

Менеджер одного из агентств, Александр, мялся, отнекивался, но про "невозвраты" сказал так: "У нас возвращаемость хорошая. Из трехсот выехавших в Англию в прошлом году не вернулся один человек. Из Америки — семь". По менеджерскому мнению, лучшая статистика в стране.

Раз ведется статистика, значит, невозвраты обрели тенденцию. О ней говорить не совсем приятно. В "AM-centr" (есть и такой) нас целый месяц кормили надеждами на встречу с руководством. А в конце посоветовали нужную информацию найти на их сайте. Ясно, что менеджеры и бизнесмены чего-то боятся. Каждый не вернувшийся домой белорус сжигает им сотни нервных клеток.

Отвадить молодежь от заграницы можно по-разному. Тех, кто не вернулся, можно назвать предателями и объявить в международный розыск. Или запретить выезды на работу за границу. Но это уже когда-то было, это называлось железным занавесом.

В Белорусском государственном университете поступили демократичнее. Срок пребывания студентов за рубежом ограничили до трех месяцев. Не вернешься к первому сентября — вылетишь из вуза. Станешь дворником, только уже нашим, белорусским, с рублевой зарплатой. Рисковать отважатся не все, ведь за три отведенных месяца можно ничего не заработать.

Самый легкий выход из ситуации — не считать ее проблемной. Невозвраты можно не замечать, как делается это сейчас. Каких-то семь человек не вернулось! Какая-то Таня хочет остаться в Америке! Пускай. Ведь насильно Родину любить не заставишь.

Лучше, чтобы родина полюбила!

**Андрей АСФУРА, Николай КОЗЛОВИЧ.**

ПРАТЭСТ

# «... Паслязаўтра махавік незаконных рэпрэсій можа закрануць кожнага чалавека...»

***Спыніць крымінальную справу ў дачыненні да старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі запатрабавала група беларускіх палітыкаў.***

У распаўсюджанай заяве пад назвай *"Аб новым вітку рэпрэсій у дачыненні да палітычных апанентаў"*, у прыватнасці, гаворыцца: "Набліжаецца час парламенцкіх выбараў, на якіх уладзе давядзецца трымаць адказ перад народам за правалы сваёй унутранай і знешняй палітыкі, што прывяла да рэзкага пагаршэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне і становішча Беларусі на міжнароднай арэне. Боязь гэтай адказнасці поруч з усведамленнем яе непазбежнасці падштурхнула цяперашніх кіраўнікоў Беларусі на чарговае раскручванне махавіка рэпрэсій у дачыненні да палітычна актыўных грамадзян, грамадскіх аб'яднанняў, недзяржаўных газет, якія выступаюць у якасці апанентаў рэжыму і прапаноўваюць рэальную альтэрнатыву яго палітыцы".

Завядзенне крымінальнай справы супраць А.Лябедзькі за паклёп у дачыненні да прэзідэнта аўтары заявы называюць *"спробай расправы над іншадумствам". "Абвінавачваючы А.Лябедзьку ў паклёпе на А.Лукашэнку, улада праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі разгарнула кампанію бруднага цкавання сваіх апанентаў, у першую чаргу ініцыятараў стварэння Народнай кааліцыі "Пяцёрка плюс". Пры гэтым апошнія пазбаўленыя магчымасці даваць адпор афіцыйным паклёпнікам, адстойваць свае гонар і годнасць як праз тыя ж СМІ, так і праз судовую сістэму, якія знаходзяцца пад поўным кантролем прэзідэнта"*, — гаворыцца ў заяве.

На *"сумныя разважанні"* наводзіць аўтараў *"спасылка прэс-службы пракуратуры на нейкіх "грамадзян і грамадскія арганізацыі"*, паводле хадайніцтва якіх нібыта заведзена крымінальная справа". *"Здаецца, цяперашняя ўлада вяртае краіну ў змрочныя часы ананімных даносаў, "стукачоў", што загубілі жыцці і лёсы многіх і многіх людзей"*, — пішуць палітыкі.

Аўтары патрабуюць ад пракуратуры *"спыніць крымінальную справу ў дачыненні да А.Лябедзькі як выкліканую палітычнымі матывамі і без юрыдычных падстаў"* і прапаноўваюць Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу "вярнуцца да разгляду пытання аб выключэнні з Крымінальнага кодэкса артыкулаў 367, 368 і 369, якія выкарыстоўваюцца дзяржаўнымі чыноўнікамі рознага рангу для пераследу людзей за крытыку".

"Мы заклікаем грамадзян Рэспублікі Беларусь згуртавацца, каб спыніць працэс скатвання краіны да цемрашальства палітычных расправаў. Сёння ўзяліся за лідэра адной апазіцыйнай партыі, заўтра возьмуцца за іншых палітычных і грамадскіх дзеячаў, паслязаўтра махавік незаконных рэпрэсій можа закрануць кожнага чалавека", — гаворыцца ў заяве.

Подпісы пад дакументам паставілі намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады **Валерый Арцішэўскі,** старшыня Беларускай партыі працы **Аляксандр Бухвостаў,** старшыня Партыі БНФ **Вінцук Вячорка,** намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Аляксандр Дабравольскі,** першы сакратар ЦК Партыі камуністаў Беларускай **Сяргей Калякін.**

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

НОВЫЯ ІМЁНЫ

# «Ни фига не понятно...»

*Свой першы верш **Анатоль ІВАШЧАНКА** напісаў у 5 гадоў з нагоды дня народзінаў маці. Сёння творы 22-гадовага літаратара часцяком з'яўляюцца на старонках беларускамоўных выданняў.*

— Штуршком для маёй творчасці стала любоў да слова, — гаворыць Анатоль.

**— Дазвольце ўдакладніць — рускага ці беларускага?**

— З самага пачатку я пісаў па-руску, але потым стаў свядома пісаць на родным мове. Я вучыўся ў мінскай школе №4 з рускім ухілам, дзе беларускую мову і літаратуру выкладаў Анатоль Шаршнёў. Нягледзячы на тое, што гэты чалавек у свой час быў прызнаны настаўнікам года, ён быў вымушаны па матэрыяльных прычынах з'ехаць за мяжу...

Мой, так бы мовіць, сур'ёзны паэтычны дэбют адбыўся ў чацвёртым нумары часопіса "Дзеяслоў", дзе была змешчана падборка маіх паэтычных твораў з нізкі "Абразкі". Мая паэзія наблізілася да прозы.

**— Пісаць "белыя" вершы стала модна...**

— Я пішу так не таму, што сёння гэта модна, а таму, што мне гэта падыходзіць. Я проста хачу пазбягаць межаў у творчасці, хаця, натуральна, яны існуюць — для кожнага свае.

**— Паэзія — добры сродак для таго, каб прыцягваць да сябе дзяўчат, якія, як вядома, любяць вушамі...**

— У мяне, на жаль, не "спакуслівая" для дзяўчат паэзія. Яны хутчэй за ўсё развітаюцца, калі пачуюць мае вершы. Прывяду адзін яскравы выпадак. Мне неяк давялося выступаць у студэнцкай аўдыторыі разам з аўтарамі "Дзеяслова". Увазе чытачоў я прапанаваў верш якраз з нізкі "Чорныя вершы". Прачытаў. Вяртаюся на месца. І чую за спінай, як адна дзяўчына кажа сваёй сяброўцы: "Ни фига не понятно". Я нават, можа, і згодны з такой адзнакай сваёй творчасці...

**— Дык, можа, лепш было звязаць сваё жыццё з музыкай, тым больш што ты вучыўся ў музычнай школе?**

— Я атрымаў музычную адукацыю па класе балалайкі. З другога класа дзяцей размяркоўвалі на той ці іншы інструмент. Я вельмі хацеў граць на флейце, хаця і не ведаў, як яна выглядае... Проста слова падабалася. Але ў той час на самыя лепшыя інструменты (гітара, фартэпіяна) прэтэндавалі перш за ўсё дзеці, чые бацькі займалі высокія пасады. Мае бацькі былі шараговымі навуковымі супрацоўнікамі, так я і трапіў на народнае аддзяленне па класе балалайкі. Дарэчы, у школе мы стварылі музычны гурт, дзе спявалі песні таксама і на ўласныя вершы.

Але ўжо ў школе я крыху пісаў. У восьмым класе нават цэлую паэму стварыў. Карацей кажучы, пасля школы я вырашыў паступіць на філфак, а пад гітару спяваю толькі ў кампаніях.

**— Ты абраў літаратуру сваёй прафесіяй. Ці можна ў нас маладому літаратару зарабіць нармальныя грошы?**

— У нашай краіне літаратурай зарабіць складана... Як вядома, сучасная беларуская літаратура "патанула" ў сваёй элітарнасці. У тым сэнсе, што сёння айчынную літаратуру чытае вельмі абмежаваная колькасць людзей ды і беларускія кніжкі выдаюцца мізэрнымі накладамі...

**— Да таго ж і пераважная большасць людзей у нашай краіне сёння размаўляе па-руску...**

— Усё адно — беларуская мова ўсіх перажыве. Пакуль будуць тыя людзі каму патрэбна беларускае слова, — будуць і тыя, хто для іх будзе пісаць. Я веру, што праз некаторы час беларуская мова будзе дамінiраваць у нашай краіне. Вось прыклад. Згуртаванне "Бацькаўшчына" неяк ладзіла для дзяцей экскурсію ў Чэхію. Мне давялося быць у той вандроўцы кіраўніком. На шляху туды некаторыя дзеці грэбліва ставіліся да беларускай гаворкі, маўляў, "да эта вабшчэ адстойный язык, *мёртвый* язык". Але на зваротным шляху без перабольшвання ўвесь аўтобус спяваў беларускія песні. Алесі не дазвалялі называць сябе Сашамі. Людзям хапіла трох тыдняў, праведзеных у натуральным беларускім асяроддзі, у далечыні ад расійскіх мас-медыя і трасянкі, каб успомніць пра свае нацыянальныя карані. Так і ў нашым грамадстве: пры разумным падыходзе і спрыянні дзяржавы цалкам мажлівы хуткі зварот да нацыянальнага. Без гвалту і прымусу.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**Даведка «Народнай волі»**

*Анатоль Івашчанка нарадзіўся ў 1981 годзе. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Лаўрэат літаратурнага конкурсу імя Наталлі Арсенневай (2003). Зараз вучыцца ў аспірантуры Інстытута літаратуры НАН РБ. На грамадскіх пачатках працуе кіраўніком спраў у Саюзе беларускіх пісьменнікаў.*

СПОРТ

## «Юнацтва» — каманда трэцяга перыяду?

*Плэй-оф чэмпіянату Беларусі па хакеі з шайбай выйшаў на фінішную прамую. Зараз праходзяць фінальныя серыі за трэцяе месца і званне чэмпіёна.*

За бронзавыя медалі хакейны клуб "Гомель" паспяхова змагаецца са спартсменамі з мінскага "Дынама". Пасля дзвюх сустрэч лік у серыі 2:0 на карысць гомельскіх хакеістаў. У першай сустрэчы яны перамаглі — 4:3, а ў другім матчы перамога "Гомелю" далася няпроста — 2:1. Пераможная шайба была закінута ў овертайме.

У фінале залатыя медалі аспрэчваюць дзве мінскія каманды — "Керамін" і "Юнацтва".

Нагадаем, што ў пятай рашаючай сустрэчы паўфіналу "Юнацтва" перамагло "Гомель" — 5:4, прычым па ходзе той сустрэчы "Гомель" выйграваў з лікам 4:1, а ў трэцім перыядзе выхаванцы Міхаіла Захарава закінулі чатыры "сухія" шайбы, што і дазволіла ім выйсці ў фінал.

Такая ж гісторыя паўтарылася і ў першым фінальным матчы. Пасля двух перыядаў "Юнацтва" ўступала "Кераміну" — 1:3. Але ў апошняй дваццаціхвілінцы "Юнацтва" закінула тры шайбы і адсвяткавала перамогу. Дарэчы, адзін гол запісаў на свой рахунак нападаючы зборнай Беларусі і чарапавецкай "Северстали" Аляксей Калюжны, які зараз гуляе ў "Юнацтве".

Лік у фінальнай серыі 1:0 на карысць "Юнацтва".

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

## 12 прызавых месцаў

*12 прызавых месцаў — 3 першыя, 4 другія і 5 трэціх — заваявалі беларускія барцы вольнага стылю на XXXIV міжнародным турніры на прызы Аляксандра Мядзведзя, які праходзіў у Мінскім лядовым палацы спорту.*

Першыя месцы занялі Герман Кантоеў (вагавая катэгорыя не больш за 55 кг), Мурад Гайдараў (74) і Аляксандр Шэмараў (96); другія месцы — Аляксандр Карніцкі (60), Сяргей Дземчанка (66), Сямён Семянок (84) і Юлія Раткевіч (59); трэція месцы — Сяргей Борчанка (84), Марына Маркевіч (48), Таццяна Грыгор'ева (51), Людміла Сёмкіна (55) і Галіна Міхайленка (72).

Усяго ў спаборніцтвах узялі ўдзел 183 спартсмены з 19 краін: па адным з Азербайджана, Германіі, Эстоніі, Македоніі і ЗША, 27 — з Украіны, 42 — з Расіі і 51 — з Беларусі.

Галоўны трэнер зборнай Беларусі па вольнай барацьбе Валянцін Мурзінкоў задаволены вынікамі, але не паказанай барацьбой.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## В апреле в телевизоре будет много хоккея

**Первый национальный телеканал будет вести прямую трансляцию чемпионата мира по хоккею среди юниоров (U-18), который пройдет в столице Беларуси.**

Как сообщили в пресс-службе Белтелерадиокомпании, в прямом эфире зрители смогут увидеть все матчи с участием юниорской сборной страны, а также финальные игры чемпионата.

Чемпионат мира, в котором примут участие команды 10 стран, пройдет в апреле в Минске на аренах Ледового дворца и Дворца спорта. Трансляция матчей будет вестись не только на Беларусь, но и на некоторые страны, в том числе на Россию и Данию.

Показ матчей команды юниоров начнется 9 апреля встречей Беларусь — Дания, но до этого, в день торжественного открытия — 8 апреля, планируется показать матч, в котором сыграют команды Канады и Швеции.

В эти же дни в Норвегии будет проходить и чемпионат мира в группе "А" первого дивизиона, где национальная сборная Беларуси будет сражаться за возвращение в элиту мирового хоккея. По словам директора Дирекции спортивных программ Белтелерадиокомпании Бориса Герстена, в настоящее время ведутся переговоры о покупке прав на трансляцию, чтобы белорусский зритель увидел и этот чемпионат. Игры юниорской и национальной сборных будут транслироваться на Первом национальном телеканале и на телеканале "Лад".

Помимо трансляций чемпионатов мира по хоккею, в апреле на Первом национальном спортивные болельщики также смогут увидеть тележурнал под названием "Дорога к Евро-2004". Журнал расскажет о подготовке к чемпионату Европы по футболу в Португалии, который будет показан на Первом национальном канале в полном объеме.

Кроме того, будет показан товарищеский матч национальных сборных Беларуси и Литвы, который состоится 28 апреля. На Первом национальном телеканале белорусы увидят и матчи итальянской футбольной серии "А", Лиги чемпионов и многие другие спортивные события.

**Юлия ТЕЛЬТЕВСКАЯ, БелаПАН.**

НА ЗДОРОВЬЕ!

## «Покаянный» овощ

В старину в семинедельный пост самыми популярными были блюда из редьки: во-первых, она хорошо сохранялась до весны, во-вторых — очень полезна. Именно поэтому корнеплод и прозвали в народе "покаянным" овощем. В древности много знали о полезных и целебных свойствах редьки и широко их использовали. Ученые установили, что она богата минеральными элементами: калием, кальцием, серой и магнием, содержит белки, витамины $B_1$, $B_2$, $B_6$, аскорбиновую кислоту и бактерицидные вещества. Так что полезность "покаянного" овоща неслучайна.

Что же касается целебных качеств, то народная медицина всегда применяла сок или тертую редьку против простудных заболеваний, малярии, для лечения гнойных ран, язв, малокровия. Раны лечили кашицей из тертой редьки, а универсальное лекарство от ряда болезней готовили по старинному рецепту следующим образом: наливали равное количество сока редьки, свеклы и моркови в теплую бутылку, обмазывали ее тестом, неплотно закрывали и ставили в духовку на три часа. А после хранили в темном прохладном месте. Принимать снадобье нужно в течение трех месяцев трижды в день перед едой.

При камнях в желчном пузыре и почках, отеках, атеросклерозе, заболеваниях печени дважды в день пили по полстакана сока редьки, смешанного с медом. Редька полезна при циррозе печени, холециститах и гепатитах. Тертую сырую редьку и свежий сок из нее рекомендуется употреблять при радикулитах, невралгиях, миозитах, артритах и для возбуждения аппетита. Сок редьки, смешанный в равных пропорциях с сахаром или медом, просто незаменим при кровохарканье, кашле, бронхитах. Для того чтобы приготовить снадобье, нужно выскоблить часть сердцевины корнеплода, насыпать туда сахар или налить мед. Пропитанный соком редьки мед или сахар принимать по чайной ложке трижды в день. А можно приготовить лекарство иначе: нарезать корнеплод маленькими кубиками, положить в кастрюлю, засыпать сахаром и печь в духовке в течение двух часов. Затем слить сок и принимать его по две чайные ложки четыре раза в день перед едой и на ночь перед сном. Это лекарство знахари рекомендуют в основном для детей. Полезен от кашля и сок редьки, смешанный с равным количеством молока. Но следует запомнить, что редька противопоказана при гастритах с повышенной кислотностью, язвах желудка и двенадцатиперстной кишки, органических заболеваниях сердца.

Из редьки готовят самые разнообразные салаты, сочетая их со всевозможными овощами и заправляя маслом, сметаной или майонезом. Но хозяйкам будет интересен новый оригинальный рецепт: редьку натереть на крупной терке, добавить сто граммов творога, смешанного с двумя столовыми ложками сметаны, столовую ложку измельченных грецких орехов и заправить салат солью или сахаром — по вкусу. Кстати, не все хозяйки, по-видимому, знают, что из молодых листьев редьки можно готовить вкусные щи, холодники, окрошки, а измельченными листьями посыпать вторые блюда.

**Юлия ФРОЛОВА.**

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

## Дажджлівая ноч

Міхась Журынчык зноў пасварыўся з жонкай. Счапіліся з-за сына. Яна дазваляе трохгадоваму дзіцяці ўсё, што той пажадае. Міхась не без падстаў баяўся, што з малога вырасце вялікі эгаіст.

Жонка зачынілася з сынам у спальні, і Журынчык па вопыце ведаў, што маўчанка зацягнецца на некалькі дзён. На душы было прыкра і пуста, як і заўсёды пасля сямейных сварак.

— Шкада, што лье дождж, а так схадзіў бы ў бальніцу паглядзець, як там маецца дзед, якога днём прааперыраваў, — падумаў ён.

Уключыў тэлевізар і, сеўшы на канапу, без усялякай цікавасці пачаў глядзець стары фільм, які бачыў ужо некалькі разоў.

Зазваніў тэлефон. Міхась узяў трубку і пачуў заклапочаны голас свайго калегі хірурга Андрэя Міронічыка.

— Збірайся. Машыну высылаю.

— Што здарылася?

— Дзесяцігадовы хлопчык трапіў пад трактар. Чэрапна-мазгавая траўма, пералом бядра. Убачыш сам.

За гады працы ў бальніцы невялікага раённага гарадка ён бачыў усякае, але ніяк не мог прывыкнуць да дзіцячых пакут. У такіх выпадках адчуваў нейкую няёмкасць, што ён, дарослы — дужы і здаровы, а маленькая істота так пакутуе. З маленькімі пацыентамі быў надзвычай ласкавы, часта прыносіў ім з дому ласункі, калі бачыў, што бацькі не могуць купіць свайму хвораму дзіцяці таго, чаго ў яго сына заўсёды было даволі.

Пакуль прыехаў, хлопчыка падрыхтавалі да аперацыі. Міхась з радасцю ўбачыў сярод калег дзіцячага нейрахірурга прафесара Васіля Мікалаенку, які быў родам з іхняга гарадка і цяпер адпачываў у маці.

Хлопчык быў беспрытомны. Невялічкі ростам, худзенькі, з нагола пастрыжанай перад аперацыяй чарнявай галоўкай, ён выклікаў у Міхася шчымлівы боль.

— Які малайчына Андрэй, што запрасіў Васіля Пятровіча. Мы самі, можа, і не справіліся б, — падумаў доктар.

Чэрапна-мазгавая траўма была складанай, і ён усур'ёз баяўся за вынік аперацыі. Мікалаенка, вядома, таксама не Бог, але ж у яго залатыя рукі і веды — не параўнаць з правінцыйнымі хірургамі.

Аперацыя прайшла паспяхова. Цяпер хірургі і рэаніматолагі маліліся, каб не было ўскладненняў. Некалькі дзён хлопчык будзе знаходзіцца ў медыкаментозным сне, і медыцынскі персанал рэанімацыі не спусціць з яго вачэй.

Прафесар заўтра ранішнім цягніком павінен ехаць у Маскву, дзе жыве, і выходжваць хлопчыка давядзецца ім самім.

Калі Міхась, пакурыўшы, зайшоў у ардынатарскую, там ужо сядзеў Андрэй Міронічык і нешта пісаў у гісторыю хваробы.

— А чый гэта хлопчык? Дзе яго бацькі? — спытаў Міхась.

— Мала што ведаю, — адарваўшыся ад справы, сказаў Андрэй. — Не было калі асабліва разбірацца. Разам з ім на "хуткай дапамозе" прыехала маці. Яна такая напалоханая, заплаканая, што ледзь толку дабіліся. Казала, што прыехала разам з малым у госці да сяброўкі ў вёску Манькаўшчына. Сёння раніцай прыехалі, а паслязаўтра меліся ехаць назад. Жывуць на Віцебшчыне.

— Я больш ведаю, — паведаміла аперацыйная сястра Наташа, якая ўключыла кіпяцільнік і хацела заварыць чай. — Мама яго — паклонніца Бахуса. Гэта відаць няўзброеным вокам: неахайна апранутая, колер твару выдае тайныя захапленні. Ды і сяброўка, да якой прыехала, таго ж поля ягада. Яны выпадкова пазнаёміліся ў Мінску на вакзале. Прыцягнулася ў нашы мясціны невядома чаго, малы заняткі ў школе без прычыны прапускае. Словам, матулька яшчэ тая.

— А бацька дзе? — пацікавіўся Міхась.

— Сабакам сена косіць. Цяпер гэта модна, для сабак сенаваць, — са злосцю сказала Наташа. Яна была старой дзеўкай і да мужчын адносілася з пагардай і недаверам.

— Табе б, Наташа, у вышуку працаваць, але шкада адпускаць, бо і медсястра ты выдатная, — пажартаваў Андрэй.

Дзяўчына на гэтыя словы не адрэагавала. Сказала, звяртаючыся да Міхася:

— Калі хочаце ўбачыць матулю хлопчыка, зайдзіце ў фае. Яна там сядзела, можа яшчэ не пайшла.

Ён накіраваўся ў фае. Каб хто спытаўся, навошта яму тая незнаёмая жанчына, наўрад ці адказаў бы. Хацелася проста пагладзець на яе, выказаць спагаду, неяк падтрымаць у бядзе.

У фае было пуста, і ён адразу ўбачыў яе худзенькую постаць, сціснутую ў камячок ад гора, нібы верабейка на марозе. Апранута была і сапраўды бедна і неахайна. Караткаватае асенняе паліто, старыя гумовыя боты, якія носяць на працу вясковыя жанчыны. І раптам доктара Журынчыка нібы токам працяло: ён убачыў над верхняй губой жанчыны маленькую чорную радзімку, а напоўненыя тугой і жалем вялікія шэрыя вочы рэзанулі па сэрцы:

— Соня?!

Міхась яе ледзь пазнаў. Ён маўчаў, бо перахапіла дыханне, задрыжалі ногі. Да яго свядомасці ўжо канчаткова дайшло і засела ржавым цвіком: гэта Соня, яго першая жонка. Яны пазнаёміліся і пажаніліся яшчэ тады, калі яна была студэнткай педінстытута, а ён працаваў токарам на адным з мінскіх заводаў. Ён прыраўнаваў Соню да суседа па інтэрнаце. Моцна пасварыліся. Сам падаў на развод. Звольніўся з працы і паехаў да бацькоў у вёску пад Маладзечна.

Было гэта вясной. А летам Міхась са стрыечным братам, які толькі што скончыў школу, паехалі паступаць у медыцынскі інстытут. Брат падгаварыў. Потым жартаваў, што звязаўся з Міхасём на сваю галаву, бо той паступіў, а брат не прайшоў па конкурсе. Яму шчасце ўсміхнулася ажно праз два гады.

Цяпер, калі ў яго новая, не зусім удалая сям'я, Міхась часта ўспамінаў Соню. Яе мілую, нейкую сарамлівую ўсмешку, слёзы ў вялікіх шэрых вачах, калі ён, нібы каменні, кідаў у яе незаслужаныя абразы і кпіны. А што незаслужаныя, яму "папулярна" растлумачыў той самы сусед. Аднойчы, калі Міхась ужо звольніўся і збіраўся ехаць дадому, сусед прыйшоў у пакой і уляпіў раўніваму мужу моцную аплявуху.

— Ты яшчэ не раз пашкадуеш аб тым, што нарабіў. Не шукай яе, не знойдзеш. Яна прозвішча памяняе.

Міхась і праўда шкадаваў. А цяпер нібы хто вугалёў яму ў грудзі насыпаў.

— Ты замужам?

— Не.

— Была замужам?

— За табой толькі.

— А хлопчык чый?

— Твой. Ты ж прагнаў мяне цяжарную. Я тады яшчэ і сама не ведала, што цяжарная. Ты толькі што аперыраваў свайго сына...

Міхась успомніў худзенькі бяскроўны тварык, стрыжаную галоўку і ледзь не застагнаў ад невыноснага болю.

— Ён паправіцца? — спытала Соня.

— Будзем спадзявацца на лепшае. І табе трэба лячыцца, разумееш? Я дапамагу. Ты не спрабавала лячыцца ад алкагалізму?

— Гэта я апусцілася за апошні год, калі са школы звольнілі, дзе хімію выкладала...

— Нічога, усё будзе добра, Соня. І сынок наш паправіцца. Усё будзе добра...

Пякучая віна перад гэтай няшчаснай жанчынай, з якой ён па маладой дурасці абышоўся так жорстка, перад маленькім бездапаможным сынам, што ляжаў цяпер маўклівы і нерухомы ў страшнай белізне палаты, прыскам смаліла душу, не давала дыхаць.

— Пакажы мне яго. Я хачу зірнуць, — папрасіла Соня.

Ён узяў яе пад руку і моўчкі павёў па калідоры. З дзвярэй ардынатарскай выглянула Наташа і здзіўлена пазірала ім услед.

А за вокнамі ліла слёзы адзіноты халодная восеньская ноч...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ДЕЛО №...

## Бывшему профсоюзному боссу нужен адвокат

Прокуратура Минска возбудила уголовное дело в отношении бывшего председателя Республиканского совета профсоюза "Садружнасць" О.Бортникова.

Бортников подозревается в совершении ряда преступлений в то время, когда он возглавлял "Садружнасць". В частности, в июне 2000 года он составил ложный протокол заседания совета о включении в число застройщиков кооператива "Долевик" ООО "Промстройфин" с выделением этому обществу трехкомнатной квартиры. На подлог, по версии следствия, профсоюзный босс решился после получения взятки в сумме трех тысяч долларов от директора "Промстройфина". Под следствием оказался и сын Бортникова. Ему инкриминируется подстрекательство и посредничество во взяточничестве.

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

24

сакавіка

**СЕРАДА**

Усх. 6.02 Зах. 18.31

Даўж. дня 12.29

Маладзік 21 сакавіка

**70 гадоў** з дня нараджэння Ю.Ф. Ступакова (1934—1999), акцёра, народнага артыста Беларусі

КАЛІ ЛАСКА...

## Конкурс вучнёўскіх і студэнцкіх газет

Напрыканцы 2001 года ў памяшканні сталічнага Педуніверсітэта былі падведзены вынікі конкурсу школьных і вучнёўскіх газет, які арганізоўваўся Рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем "Таварыства беларускай школы" пры падтрымцы розных устаноў. У ім прымалі ўдзел дзесяткі выданняў з усіх рэгіёнаў. Гэта былі як рукапісныя, так і пераважна зробленыя на камп'ютэры газеты і бюлетэні. 28 з іх атрымалі дыпломы і розныя падарункі (фотаапараты, дыктафоны, паперу для выданняў, льготныя пуцёўкі за мяжу).

Аўтарытэтнае журы вызначыла лепшымі наступныя малатыражныя выданні (яшчэ раз іх назавём): "Малое Палессе" (скаўцкая газета, Крупкі), "Маладзік" (СШ № 1 г.Кобрына), "Лілея" (Вілейская скаўцкая харугва), а таксама "Задняпроўе" (СШ № 8 г.Оршы), "Школьная газета", "Хронас Палесся" (абодва выданні з г.Гомеля), "Ветразі надзеі" (г.Слонім), "Наша люстэрка" (гімназія № 1 г.Бярозаўкі Лідскага раёна), "Мысліца" (Шчомысліцкая СШ Мінскага раёна), "Маладзічок" (СШ № 24 г.Барысава), "Гімназіст" (гімназія № 4 г.Мінска), "Сьвятаяньнік" (Вішнявецкая СШ Стаўбцоўскага раёна) і іншыя.

Аб'яўляецца **новы конкурс вучнёўскіх і студэнцкіх газет.** У ім могуць прымаць удзел любыя выданні (газеты, бюлетэні, часопісы і г.д.), якія ствараюцца навучэнцамі адукацыйных устаноў пры дапамозе камп'ютэра ці іншым шляхам. На адрас ТБШ, які будзе пададзены пазней, высылаюцца не менш за два нумары газет (адна ці дзве з іх за 2004 г.). Яны будуць прымацца *з 10 верасня* (дня магчымага першага сярод усходніх славян друкаванага выдання Ф.Скарыны). Святочнае падвядзенне вынікаў — 25 верасня 2004 г. Аўтарытэтнае журы з ліку вядомых публіцыстаў, грамадскіх дзеячаў і рэдактараў газет і часопісаў, вызначаючы 15 пераможцаў, будзе кіравацца асноўнымі патрабаваннямі да выдання: афармленне на беларускай ці беларускай і іншых мовах, актуальнасць і надзённасць асвятляемых праблем рэгіёна і краіны, патрыятычная і краязнаўчая тэматыка.

Пераможцаў чакаюць дыпломы і падарункі.

**Алесь ЛОЗКА,**
**старшыня РГА**
**"Таварыства беларускай школы"**
**(тэл.274-04-72).**

## Среда, 24 марта

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 19.55** "Деловая жизнь".
**09.10** Сериал **"Клеопатра".**
**09.45** Специальный репортаж.
**10.05, 20.00** Сериал **"Золото Югры".**
**11.05, 17.25 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10, 16.45, 23.50** "Моя страна".
**12.20** Комедия **"Наш человек в Сан-Ремо".**
**14.15** "На перекрестках Европы".
**15.10** Сериал **"Студенческая жизнь".**
**16.05** "5х5".
**17.05** "Маски-шоу".
**18.30** "Кстати".
**19.05** Сериал **"Американский дядюшка".**
**21.00** "Панорама".
**21.40** Футбол. Лига чемпионов. 1/4 финала. "Челси" — "Арсенал".
**23.35** "Евровидение-2004".
**00.00** Футбол. Лига чемпионов. 1/4 финала. "Реал" — "Монако".

### ОНТ

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 22.55** Наши новости.
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05** Сериал **"Клон".**
**09.55** "Дом".
**10.40** "Не только о футболе".
**11.00** Дисней-клуб.
**15.20** "Город женщин".
**16.05** Сериал **"Берег мечты".**
**16.55** "Большая стирка".
**18.10** "Дом".
**20.00** Время.
**21.00** Сериал **"Любительница частного сыска Даша Васильева".**
**22.00 "Улицы разбитых фонарей-5".** Сериал.
**23.10** Фабрика звезд-4.

### РОССИЯ

**07.45, 19.55** Сериал "Небо и земля".
**08.50** "Короткое замыкание".
**09.45, 22.50** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.30, 19.30** Местное время. Вести—Москва.
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50, 21.00** Сериал **"Пан или пропал".**
**16.10** Сериал **"Люди и тени-2".**
**17.00 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**17.55** Сериал **"Закон".**
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**22.00** Вести+.
**22.20** Авторитет с Дмитрием Киселевым.
**23.05** Фильм **"Обычные подозреваемые".**

### ЛАД

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** Площадь искусств.
**08.35** Сериал **"Проклятый уютный дом".**
**09.50** "Сад мечты".
**10.20, 18.30** "Между нами, женщинами".
**10.45, 21.15** Сериал **"Грешная Анжелика".**
**11.30, 13.20** "Обычный необычный день".
**12.05** Драма **"Дни Турбиных".** 2-я серия.
**13.45** "Сладкий родник". Мультфильм.
**14.10** Мультиклуб.
**15.05** Сериал **"Зеркало, зеркала".**
**15.25** "Не зевай!".
**15.35** Тележурнал "Бум".
**16.05** Мультфильмы.
**16.30 "Неизвестный Наполеон". Сериал.**
**16.55** "Александр Шилов. Народный художник".
**17.30** "Росчерк времени".
**17.45** Сериал **"Вокруг света за 80 дней".**
**18.50** Драма **"Дни Турбиных".** 3-я серия.
**20.15** Колыбельная.
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** Мелодрама **"Несрочная весна".**

### НТВ

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00, 00.05** Сегодня.
**09.25** Кулинарный поединок.
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Как в старом детективе".**
**17.35** Протокол.
**18.40** Сериал **"Литовский транзит".**
**19.50** Сериал **"Рокировка".**
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** Красная стрела.
**21.45** Сериал **"Без следа".**
**22.50** Сериал **"Литовский транзит".**
**00.30** Ленивая ночь.

### СТВ+RenTV

**06.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.25, 15.40 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Сериал.
**06.50** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.05, 20.15** "Минск и минчане".
**08.20, 23.05** "Технология".
**08.30** "Автопанорама".
**08.50** "Закон и криминал".
**09.05** Фантастический фильм **"Тринадцатый этаж".**
**10.35** "Замок лгунов". Мультфильм.
**10.55** "Эти эксцентричные люди". Док.фильм.
**11.30** "Горячий лед".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Рыжий карлик". Док.фильм.
**13.50, 18.30 "Арабские приключения".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или ОБщественное деЖа вю".** Сериал.
**15.15** "Рыцари света". Мультсериал.
**16.00** "Как грибы с горохом воевали". Мультфильм.
**16.20** "Тема дня".
**17.00 "Вовочка-3".** Сериал.
**17.30 "Чисто по жизни".** Сериал.
**18.15** "Планета людей".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Автопанорама".
**20.55** Комедия **"Бриллианты".**
**23.15** "Украденное сердце". Док.фильм.
**00.00 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.45** "Новости СНГ".

### 8-Й КАНАЛ

**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**16.45 "Любовники пустыни".** Сериал.
**17.40** "Крестьянские ведомости".
**18.10** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**18.15 "Туннель".** Боевик.
**19.50 "Любовники пустыни".** Сериал.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Европа сегодня".
**21.30 "Лезвие ведьмы".** Мистический детектив.

### ТВ ЦЕНТР

**06.30** "Настроение".
**07.45** Газетный дождь.
**07.55 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.50, 18.55 "Жизнь продолжается".** Сериал.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00, 23.30** События.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.05** "Репортер".
**11.15** Отдел "Х".
**11.55** Квадратные метры.
**12.10, 23.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20** Будьте здоровы!
**15.30** Ступеньки.
**16.00** "Петр Великий". Сериал.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.50 "Нина".** Сериал.
**21.45** Фильм "Заплыв слепых".
**22.40** Времечко.
**23.55** Музыкальный серпантин.
**00.10 "Парижский полицейский".** Сериал.
**01.05** "Синий троллейбус".

### EUROSPORT

**09.30** Сноуборд.
**10.00** Евроголы.
**11.00** Волейбол.
**12.00** Снукер.
**13.30** Фигурное катание.
**15.30** Снукер.
**19.00** Триал.
**19.30** Фигурное катание.
**23.45** Гольф.
**01.30** Снукер.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**


Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 730 экз. Заказ № 613.